# ВЕРХНІ ГОРАД -- СІТУАЦЫЯ

*...На наших глазах совершенно спокойно строители разбирают и выбрасывают (причем в последнее время называя это реставрацией) древние конструкции, заменяя их простыми в изготовлении... А эти конструкции нередко находятся в том состоянии, когда их можно отреставрировать. И уходят вместе с древними элементами, с заменой их новоделом, и история, и легенды, и предания.*

*В Минске, например, осталась последняя и единственная на сегодняшний день возможность сохранить для потомков свидетельство того, как в прошлые века строили город минские зодчие. Это дом № 31 по ул. Интернациональной.*

*...Сейчас завершается разработка проекта реконструкции дома № 31 под филиал Национальной библиотеки Беларуси. К чему может привести подобная реконструкция, можно увидеть на печальной судьбе Верхнего города, где многие памятники уже снесены до основания, как это произошло с домом № 25 по ул. Интернациональной, или от их первоначальных конструкций сохранились лишь небольшие фрагменты. Наиболее характерный пример — памятник архитектуры XYIII века, дом № 21/3 по ул. Интернациональной. От него остались лишь фрагменты старых стен... После такой реконструкции этот новодел будет очень трудно назвать мемориальным объектом и писать о нем: «Здесь жил Станислав Монюшко...»*

**Мы нагадалі некалькі фрагментаў з праблемнага артыкула Сяргея Сергачова і Уладзіміра Дзянісава «Реконструкция разрушения», які быў змешчаны ў «ДВ» пад рубрыкай «Требует решения» 11 мая 1993 года,амаль два гады таму. З таго часу былі і іншыя публікацыі на гэтую ж тэму — мяняліся аўтары, аб'екты іх заклапочанасці, але воз як не рухаўся, так і не рухаецца. Аб гэтым сведчаць і апошнія лісты, што атрымала рэдакцыя «ДВ».**

**Тамара Габрусь, кандыдат архітэктуры, у сваім лісце («ДВ» ад 25 студзеня г.г.) прапаноўвала правесці грамадскае абмеркаванне праектаў рэканструкцыі Верхняга горада і фактаў парушэння заканадаўства па ахове помнікаў у гістарычным цэнтры Мінска. Аб гэтым жа гаворыць у сваім лісце, які мы сёння друкуем, Мікола Купава, мастак, старшыня камісіі па культуры Беларускага народнага фронту «Адраджэнне».**

**Так, толькі агульнымі намаганнямі можна стварыць перашкоду, заслон абыякавасці і безадказнасці за лёс Верхняга горада пэўных устаноў і асоб, якія займаюцца яго рэканструкцыяй.**

☐ ЗВАРОТ У РЭДАКЦЫЮ

## ЗАХАВАННЕ МІНУЎШЧЫНЫ — ЁСЦЬ ПАДМУРАК НАШАГА ЗАЎТРА

Звярнуцца да Вас яшчэ раз прымушаюць новыя абставіны — верагоднасць знішчэння каштоўнага помніка архітэктуры. З дома № 31 па вул. Інтэрнацыянальнай пачалі высяляцца ўстановы, а дом — рыхтавацца да «рэстаўрацыі». Сама па сабе гэтая задума павінна радаваць: прыемна, што нашая дзяржава нарэшце пачала клапаціцца пра ўласнае багацце. Але вынікі «плённай працы рэстаўратараў» у Верхнім горадзе — гэта амаль поўнае знішчэнне аб'ектаў рэстаўрацыі.

Дом, пра які ідзе размова, быў пабудаваны ў канцы XVIII ст. Ён — адзін з самых цікавых і старадаўніх дамоў Мінска, якія захаваліся да сённяшняга дня. Цокальны паверх складзены з бутавага каменю. Звонку адшліфаваныя валуны не тынкаваліся і стваралі прыгожы малюнак і моцную апору верхнім сценам. Захаваліся мураваныя скляпенні і іншыя (драўляныя) перакрыцці. І што самае дзіўнае — захавалася канструкцыя даху, зробленая без аніводнага цвіка! У інтэр'еры радуюць вока цудоўныя кафляныя печы XIX ст. Дваровы фасад аздоблены галерэяй з ажурнай агароджай, што нагадвае старадаўнюю Іспанію (бо ў Мінску амаль усё падобнае панішчылі). Такім чынам, гэта адзіны аўтэнтычны грамадзянскі будынак, які цалкам захаваўся.

Таму мы патрабуем не праводзіць так званую рэстаўрацыю дома № 31 па вул. Інтэрнацыянальнай, бо яна прывядзе да разбурэння каштоўнага помніка. Трэба толькі правесці кансервацыю і касметычны рамонт. Патрабуем таксама не прыстасоўваць гэты дом пад бібліятэчнае сховішча, бо гэта вымагае замены драўляных перакрыццяў на бетонныя.

Рамонтныя працы мусяць выконваць высокакваліфікаваныя спецыялісты, таму што захаванне сёння нашай мінуўшчыны ёсць падмурак нашага заўтра, нашай будучыні.

**Аляксей Фралоў, Анатоль Шагун, Ганна Шагун, Валянціна Мацкевіч і іншыя — усяго 47 подпісаў.**

## АДКРЫТЫ ЛІСТ СТАРШЫНІ МІНГАРВЫКАНКАМА СПАДАРУ У.У.ЯРМОШЫНУ

**Паважаны старшыня!**

Пытанні захавання помнікаў гісторыі і культуры, што засталіся ў Верхнім горадзе, патрабуюць самай пільнай увагі грамадства і асабліва службовых асобаў. Заказчыкам усіх работ і адпаведна адказнымі за ўсё, што там адбываецца, з'яўляецца акцыянернае таварыства «Стары Менск». Практычна на ўсіх помніках, на якіх мусяць праводзіцца рэстаўрацыйныя працы, парушаюцца элементарныя методыкі ў гэтай галіне. А ў большасці выпадкаў пад шырмай рэстаўрацыі будынкі XVIII-XIX стст. цалкам знішчаюцца (па вул.Інтэрнацыянальнай №№ 21/3, 25, 27, 33а, Герцэна 2а, 4, 6, 8 і па Музычным завулку, 1).

На сённяшні дзень у Верхнім горадзе застаўся толькі адзін помнік канца XVIII стагоддзя — жылы дом № 31 па вул.Інтэрнацыянальнай, дзе цалкам захавалася аўтэнтычнасць канструкцый. Рэалізацыя праектна-каштарыснай дакументацыі па яго рэканструкцыі і прыстасаванні пад філію Нацыянальнай бібліятэкі прывядзе да страты каштоўнага помніка, як гэта адбылося з іншымі будынкамі Верхняга горада.

Акрамя таго, ёсць звесткі, што ў двары кляштара базыльянак плануецца ўзвядзенне буйнога сучаснага комплексу з падземнымі гаражамі. Гэта супярэчыць першапачатковай канцэпцыі рэгенерацыі Верхняга горада і прывядзе да значных стратаў, знішчэння культурнага слоя.

Да гэта часу не праведзена кансервацыя рэштках муроў і часткі роспісаў разбуранага летась дома № 2 па вул.Герцэна.

Просім звярнуць увагу на парушэнні заканадаўства і навуковых методык рэстаўрацыі Верхняга горада і прыняць неабходныя меры дзеля выратавання помнікаў старога Менска. На наш погляд, тут павінен быць рашучы падыход з боку гарадскіх уладаў, каб прыцягнуць да адказнасці чыноўнікаў, якія спрыялі гэтаму.

Трэба тэрмінова правесці кансервацыю муроў, якія цудам захаваліся, а таксама рэштках жывапісу XVIII-XIX стагоддзяў (дом № 2 па вул.Герцэна).

Неабходна распрацаваць навукова абгрунтаваны праект рэстаўрацыі дома № 31 па вул.Інтэрнацыянальнай, які б прадугледжваў поўнае захаванне і кансервацыю ўсіх яго гістарычных канструкцый, а ўжо пасля гэтага вырашаць пытанне пра яго рэстаўрацыю і далейшае выкарыстанне.

На нашу думку, нельга праектаваць і ўзводзіць ніякіх падземных ці наземных сучасных пабудоваў у Верхнім горадзе.

Мы просім правесці грамадскае абмеркаванне праектаў рэканструкцыі Верхняга горада і фактаў парушэння заканадаўства па ахове помнікаў у гістарычным цэнтры Менску, з удзелам дзяржаўных структураў, грамадскіх установаў, творчых саюзаў і ўсіх зацікаўленых асобаў.

**Мікола КУПАВА, старшыня камісіі па культуры Беларускага народнага фронту «Адраджэньне».**

☐ РЭЗАНАНС

## ЛЫЖКА ДЗЁГЦЮ





Вяртанне каталіцкім вернікам будынка былога катэдральнага (па-езуіцкага) касцёла ў Мінску было сапраўды гістарычнай падзеяй. На мой погляд, стаўленне да яе кожнага свядомага і культурнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, незалежна ад яго філасофска-канфесійнай накіраванасці, можа быць толькі адназначна станоўчым. І ў першую чаргу таму, што разам з вяртаннем першапачатковага прызначэння будынку будзе вернута і яго першапачатковае аблічча, якім ён больш за два стагоддзі ўпрыгожваў цэнтр старажытнага горада. Метамарфоза высокамастацкага твора архітэктуры нацыянальнага барока, названага ў гісторыі мастацтва «віленскім» (па тагачаснай сталіцы нашай дзяржавы), у Дом (з вялікай літары!) фізкультуры з прыкметамі стылю «сталінскага ампіра» адбылася ўжо ў пасляваенныя гады. У 1951 г. архітэктар А.Драздоў зняў верхнія ярусы ажурных вежаў і фігурны франтон на галоўным фасадзе, змяніў абрысы праёмаў і характар дэкора. Адпаведна быў пераабсталяваны інтэр'ер храма пад спартыўныя залы і клубныя памяшканні.

Зараз адбываецца вяртанне да духоўных і мастацкіх вытокаў помніка. У надзейнасці і якаснасці гэтага працэсу можна быць упэўненымі, таму што аднаўленне касцёла ажыццяўляе вядомая польская фірма па рэстаўрацыі помнікаў старажытнасці «PKZ». З беларускага боку вядзецца навуковае кіраўніцтва ходам рэстаўрацыі.

Адначасова з будынкам касцёла каталіцкай суполцы была перададзена частка дома па вул.Рэвалюцыйнай, 1-а, які з'яўляецца адной з самых старажытных мураваных пабудоў у Верхнім горадзе. Паводле гістарычных крыніц ён узведзены ў XVII ст., значна раней за касцёл, і ўжо затым, у XVIII ст., уключаны ў комплекс калегіума езуітаў. У сярэдзіне XIX ст. дом быў рэканструяваны па праекту вядомага мінскага архітэктара К.Хрышчановіча пад рэзідэнцыю каталіцкага біскупа. Пры гэтым былі тактоўна захаваны аўтэнтычныя канструкцыі будынка, які, такім чынам, спалучаў рысы архітэктуры XVII-XIX стст.

Аднак гэты цікавы сведка мінуўшчыны толькі ў 1988 г. узяты пад ахову дзяржавы і атрымаў статус помніка архітэктуры рэспубліканскага значэння. Адначасова аб'яднаннем «Белрэстаўрацыя» быў распрацаваны праект рэстаўрацыі будынка, згодна з якім прадугледжвалася аднаўленне не толькі яго фасадаў, але і інтэр'ераў з масіўнымі мураванымі скляпеннямі. На жаль, рамонтна-рэстаўрацыйныя работы былі выкананы толькі часткова.

Паўднёва-ўсходняя частка будынка, якая непасрэдна далучаецца да касцёла, на доўгі час была пакінута без даху — ганебнае відовішча, што неаднаразова маглі бачыць жыхары Мінска ў Верхнім горадзе. Нягледзячы на шматлікія звароты таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры ў розныя дзяржаўныя структуры аб неабходнасці завяршэння рэстаўрацыі і гэтай часткі помніка, ніякіх мер па яе элементарнаму захаванню не прымалася.

Як мы ўжо адзначалі, у 1994 г. і гэтую шматпакутную частку будынка вярнулі касцёлу, і ў яе з'явіўся рэальны і санавіты гаспадар. Але (гэтае вечнае але!) пытанне захавання помніка вялікай гісторыка-культурнай каштоўнасці засталося. Пачалася яго актыўная рэканструкцыя без адпаведных даследаванняў і рэстаўрацыйнай дакументацыі, без навуковага кіраўніцтва, што з'яўляецца сур'ёзным парушэннем Закона «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны». Была зроблена новая прыбудова, закладзены шэраг аконных праёмаў. Гэтыя работы, якія вяліся па праекту прыватнай творчай майстэрні М.Чакунова з поўным ігнараваннем заканадаўства, павінны былі б быць неадкладна прыпынены Дзяржаўнай інспекцыяй Рэспублікі Беларусь па ахове гісторыка-культурнай спадчыны. Аднак рэакцыя яе кіраўніка Д.Бубноўскага нагадвае чыноўнічы гіпноз. На зварот грамадскіх прадстаўнікоў таварыства аховы помнікаў па гэтаму пытанню ён адказвае абцякальнымі неканкрэтнымі фразамі, што «дасягнута дамоўленасць аб тым, што навуковае кіраўніцтва будзе ажыццяўляць сп. А.І.Курто. На сённяшні дзень са згоды сп. А.І.Курто на дадзеным аб'екце праводзяцца ў асноўным работы па ўладкаванню ўнутраных канструкцый (каштоўных фрагментаў помніка ў інтэр'ерах не захавалася)». Цікавы стыль для афіцыйнай паперы — ці не так? А са зместу вынікае, што афіцыйнае і адказнае навуковае кіраўніцтва па-ранейшаму адсутнічае, ідзе вольнае «ўладкаванне» канструкцый, каштоўнасць альбо некаштоўнасць якіх не пацверджана даследаваннямі. Чамусьці забыта пра неабходнасць аднаўлення старажытных скляпенняў, якое прадугледжвалася першапачатковай праектнай канцэпцыяй рэстаўрацыі помніка. Па Закону, праект рэстаўрацыі помніка такой значнасці павінна зацвярджаць навукова-метадычная рада пры ДзІнАс, а не асабіста сп. Бубноўскі.

**Замест гэтага нам прапануецца спадзявацца толькі на кіраўніцтва касцёла, якое «абавязалася выправіць адзначаныя парушэнні». І будзем думаць, што не толькі пад прымусам заканадаўства, якое так гнутка абыходзіць нават сама Дзяржаўная інспекцыя па ахове, але з глыбокага разумення вялікай каштоўнасці атрыманай спадчыны. Мы сапраўды на гэта спадзяёмся.**

**Тамара ГАБРУСЬ, старшыня секцыі архітэктуры Мінгарсавета таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.**

**Фота Валерыя КАРБОЎСКАГА.**

КУЛЬТУРА



В Бресте, в «Музейнай гасцёўні», открылась выставка живописи и графики Оксаны Гайдукевич — выпускницы Минского художественного училища имени Глебова, а сейчас студентки IV курса Белорусской академии искусств. Более сорока полотен талантливой молодой художницы из Бреста представлено на выставке. Оксана начала рисовать очень рано. Ростки ее таланта заметил отец — известный в Бресте архитектор Михаил Михайлович Гайдукевич. Уже в свои одиннадцать лет Оксана получила первые призы на международном конкурсе. Занималась девушка живописью в изостудии известного педагога, заслуженного учителя Республики Беларусь Михаила Сергеевича Толмачева.

Выставка такого масштаба у Оксаны — первая. Она примечательна тем, что нынешний год объявлен ЮНЕСКО годом женщины. Ей-то и посвящен вернисаж.

**НА СНИМКАХ: художница Оксана ГАЙДУКЕВИЧ во время открытия выставки; Оксана со своим первым учителем Михаилом Сергеевичем ТОЛМАЧЕВЫМ.**

**Фото Эдуарда КОБЯКА, БЕЛИНФОРМ.**



МИЛОСЕРДИЕ

## БЕДНЫХ БЫТЬ НЕ ДОЛЖНО...

**Галина КАЛЕВИЧ, «ДВ».**

*«Бедных людей у нас не должно быть, ведь сегодня достаточно тех, кто может им помочь», — считает генеральный директор ассоциации «Белагропромстройматериалы» Валерий Константинович БАГРЕЦОВ.*

Вот уже более года он помогает нуждающимся в Ленинском районе — ни одно мероприятие, проводимое райсобесом для своих подопечных, не проходит без его участия и помощи. Кроме того, два раза в месяц в кафе «Элита» он устраивает маленькие праздники для малообеспеченных — с бесплатными обедами, концертами.

Вот и недавно сюда пригласили одиноких женщин — участниц Великой Отечественной войны. Их встретили с теплотой и радушием, и атмосфера была по-настоящему домашняя. Искренние улыбки не сходили с лиц этих милых женщин. И было сказано много добрых слов, а главное, обещана поддержка в будущем — ответственными работниками горсобеса, Ленинского райисполкома, В.К.Багрецовым.

— У меня пожилые родители, оба воевали, — рассказал Валерий Константинович, — и в каждой из этих женщин я вижу свою мать. Хочется хоть как-то скрасить их жизнь. Трудно у нас было в принципе всегда — в 30-х годах, 40-х, 50-х годах и позже. Но сегодня меняется сам уклад жизни, и это тяжелее всего переносится пожилыми людьми, теми, кто отработал свое, лишился сил и здоровья. Им, конечно, надо помочь. К тому же, я убежден, что не отдавая, не помогая нуждающимся, нельзя добиться успеха ни в бизнесе, ни в любом другом деле. И нам без благотворительной деятельности продвигаться вперед было бы гораздо тяжелее. А сейчас — полное взаимопонимание с районными и городскими властями. Вот и недавно мы получили в Серебрянке помещения под магазин и аптеку. Аптека будет бесплатной для ветеранов войны и труда. А магазин — общий, чтобы как-то окупать затраты на лекарства. Хотя, конечно, основная наша работа, как можно судить по названию ассоциации — «Белагропромстройматериалы», — совсем иного рода: выпускаем стройматериалы, занимаемся пусконаладочными работами. Транспорт, торговля, общественное питание — тоже сфера нашей деятельности. Словом, производим продукцию и зарабатываем деньги. И, чем можем, помогаем другим. Тут ведь как выходит — каждый рубль, вложенный в доброе дело, возвратится также добром.

Ну, с чем, скажите, сравнить улыбки этих настрадавшихся в своей жизни людей?! Ведь они нам дали вчера гораздо больше, чем мы сегодня им даем. Просто не передать, какой для меня это заряд, какая моральная поддержка. Так что мудрые люди недаром заметили: помогать другому — это в первую очередь помогать себе.

У ГРАМАДСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯХ

## «БЕЛАРУСЫ СІБІРЫ» НА БЕЛАРУСІ

Мікола Сулкоўскі, прадпрымальнік з Новасібірска, — адзін з арганізатараў суполкі «Беларусы Сібіры», якая нядаўна ўвайшла ў якасці калектыўнага сябра ў склад «Бацькаўшчыны». А не так даўно М.Сулкоўскі ахвяраваў кілаграм серабра на аднаўленне крыжа святой Ефрасінні Полацкай.

Падчас сустрэчы прадпрымальніка з кіраўніцтвам Згуртавання былі абмеркаваны пытанні яднання нашых суайчыннікаў у далёкай Сібіры. Беларусаў у гэтым краі жыве вельмі многа. Гэта і высланыя ў розныя часы са сваёй Айчыны, і іхнія нашчадкі, і нашыя землякі, шмат якіх паехала на ўсход на будоўлі ды нафтараспрацоўкі. Кіраўніцтва ЗБС «Бацькаўшчына» і прадстаўнік дыяспары абмеркавалі магчымасць і ўмовы стварэння новых беларускіх суполак ва ўсіх абласцях Сібірскага рэгіёну, а таксама пытанні, звязаныя з правядзеннем сустрэчы беларусаў Сібіры.

**Генадзь ПРЫБЫТКА, БелаПАН.**

НАШЕ ЗДОРОВЬЕ

## О ПИЩЕ ВКУСНОЙ И ЗДОРОВОЙ

В Минске состоялся Центральный кулинарный совет «Пути повышения качества, расширения ассортимента выпускаемой продукции, внедрения новых технологий, фирменных блюд и изделий с учетом изменения спроса на продукцию массового питания». В его работе приняли участие представители Минздрава, Белкоопсоюза, Минобороны, Ассоциации кулинаров, Минского торгового техникума, органов государственного регулирования облисполкомов и Мингорисполкома, предприятий общественного питания различных форм собственности.

Лучшими мастерами-кондитерами Минска была подготовлена выставка фирменных блюд, кулинарных и кондитерских изделий.

В рамках Центрального кулинарного совета фирма «Паулинг Балтик» (Финляндия) провела презентацию сортов кофе и специй.

**Сергей РАСОЛЬКО, РИД.**

Российские Вести

## БЕРЕГИТЕ МУЖЧИН!

В России смертность мужчин трудоспособного возраста в 5 раз превышает смертность женщин. По оценкам экспертов, мужчины в 6 раз чаще женщин страдают заболеваниями органов дыхания, в 5 раз чаще — от нарушений в системе кровообращения и от травм.

Естественное сокращение численности населения составило в прошлом году по России 920 тыс. человек.

## БЫТЬ ОЛИМПИАДЕ В ПИТЕРЕ?

На ближайшем референдуме жителям Санкт-Петербурга предстоит решить, состоятся ли в городе на Неве Олимпийские игры 2004 года.

Мэр города Анатолий Собчак надеется на благополучный исход референдума и уверен, что Питер имеет реальные шансы принять у себя главные соревнования планеты. На недавней встрече в швейцарском городе Давосе президент Международного олимпийского комитета Самаранч заявил Собчаку, что Санкт-Петербург имеет преимущество перед Кейптауном, Пекином и другими городами-претендентами. По мнению мэра, проведение игр принесет Санкт-Петербургу 3 млрд. долларов дохода.

**Михаил КАРЧИК, соб. корр. агентства РИД в Санкт-Петербурге.**

